ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

http://vglybokaye.promedia.by
vglybokaye@tut.by

наш падпісны індэкс: 63668

# Вольнае Глыбокае

## + БРАСЛАЎ ДОКШЫЦЫ МЁРЫ ПАСТАВЫ ШАРКОЎШЧЫНА

Выдаецца са снежня 1994 года * № 49 (244) 2 – 8 снежня 2004 года * Кошт 450руб.




Фота Я. Самсонава

Рыбакі-аматары (злева направа): Уладзімір Рыкун, Мікалай Капытнік і Мікалай Карандзей з уловам.

*Працяг тэмы на стар. 3*



*Тэкст на купоне чытай на стар.2*

## Надвор'е ў Глыбокім http://www.rp5.ru

| | чацвер 02.XII | | | | пятніца 03.XII | | субота 04.XII | | нядз.05.XII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 2:00 | 08:00 | 14: 00 | 20:00 | 2:00 | 14:00 | 2:00 | 14:00 | 2:00 |
| Хмарнасць / Ападкі | | | | | | | | | |
| Ціск, мм | 747 | 744 | 742 | 741 | 741 | 745 | 750 | 754 | 751 |
| Тэмпература, °C | -5 | -7 | -2 | 0 | 0 | 0 | -5 | -2 | 0 |
| Вільготнасць, % | 97 | 98 | 96 | 97 | 98 | 97 | 93 | 94 | 95 |
| Вецер | Пд | Пд | Пд | Пд-З | З | Пн-З | Пн-З | З | З |
| м/сек | 4 | 4 | 3 | 2 | 3 | 3 | 3 | 3 | 7 |

# Які юбілей святкаваць?

## Глыбоцкая сярэдняя школа №1 адзначыла свае 70-ыя ўгодкі.

**Першая глыбоцкая школа адзначыла свой 70-ці гадовы юбілей. Урачыстасці з гэтай нагоды 26 лістапада адбыліся ў Гарадскім доме культуры.**

Арганізатары святкавання юбілею прывязалі гэтую дату да дня пачатку заняткаў Глыбоцкай гімназіі імя Люблінскай Уніі ў новапабудаваным будынку, што адбылося яшчэ за "польскім часам".

Зразумела, педагагічны калектыў школы можа ўзяць за аснову любую дату, якая звязана з мінулым школы і весці адлік сваёй гісторыі менавіта з гэтага дня. Гэта іх права.

Між тым, чамусьці ўсе юбілеі прывязваюцца да дня пачатку заняткаў у новаўзведзеным будынку: так было ўвесну ў Залессі, такі ж падобны юбілей, нядаўна, святкавала і Глыбоцкая СШ№2, а цяпер, вось, і Глыбоцкая СШ№1. Я думаю, што гэта не правільная практыка. Першая школа горада, ці любога іншага паселішча, яна і ёсць — першая школа ў яго гісторыі. Некаторыя вёскі нашай краіны адзначылі і 150-ыя, і 170-ыя ўгодкі сваіх школ. А Глыбокае з 600-гадовай гісторыяй адзначае толькі 70-ыя ўгодкі сваёй самай старэйшай школы. Я ўпэўнены, што можна пакорпацца ў гістарычных архівах і знайсці ланцужок, які будзе цягнуцца і 150, і 170 гадоў. Якая б улада не была — школа ў Глыбокім існавала здаўна. Яна пераязджала з аднаго памяшкання ў другое, разам з ёй і настаўнікі. Мянялася ўлада, мяняліся адрасы школы, мяняліся настаўнікі, але школа ў Глыбокім была. Такі ланцужок з сівой даўніны да 2004 года – можна знайсці.

На вялікі жаль, мы даведаліся аб маючым адбыцца юбілеі ўсяго некалькі дзён таму назад. За такі кароткі час, зразумела, знайсці нешта вартае ўвагі і параіць педагагічнаму калектыву іншую, больш салідную дату, проста не магчыма. Патрэбны час на даследаванне. Дзіўна толькі тое, што школьныя гісторыкі гэтым не займаліся.

І ўсё ж – павіншуем педагагічны калектыў Глыбоцкай СШ№1 і яе вучняў з юбілеем старэйшай школы горада! Плёну вам!

■ Ул. Скрабатун


Вучні школы слухаюць прамову дырэктара


На здымку: Іна Леанідаўна Януш, дырэктар СШ№1, адкрывае святочную вечарыну.

Браслаўскі раён

# Клопат пра спажыўцоў

■ С. Раманчук

**Да 400 кілаграмаў сыру ў дзень цвёрдых гатункаў "Гоўда" навучыліся вырабляць на малочным заводзе ў Браславе, які нядаўна ўліўся ў склад ААТ "Глыбоцкі малочна-кансервавы камбінат".**

На дачэрнім прадпрыемстве правільна вырашылі, што гэтая ніша на адным з буйнейшых у СНД флагмане галіны не запоўнена і наладзілі вытворчасць. Ды і каб вырабіць 1 кілаграм сыру, трэба затраціць 10 літраў малака, а не 23,5 – менавіта столькі патрабуецца для атрымання 1 кілаграма масла. Праўда, па тэхналогіі ў спецыяльным памяшканні сыры "даспяваюць" больш за месяц. Затое добра раскупляюцца ў гандлі і могуць паўгода захоўвацца ў дамашнім халадзільніку і не страчваць сваіх адменных якасцяў. На самім жа МКК цяпер у суткі выпускаюць больш ста тысяч банак згушчонага малака з рознымі дабаўкамі. Канкурэнцыя на малочным рынку сёння вялікая, дапаможа камбінату ўмацаваць свае пазіцыі далейшае тэхнічнае пераабсталяванне і пераход на прыродны газ, які ўжо адбыўся.

Докшыцкі раён

# Дарэмныя намаганні

■ В. Шайкоў

**Толькі лішні галаўны боль прынесла праўленню СВК "Берасноўка" (у мінулым калгас імя Юхнаўца) Докшыцкага раёна павелічэнне ў гэтым годзе ласяўных плошчаў пад бульбу.**

Яшчэ з мінулага года павісла запазычанасць у суме 12 мільёнаў рублёў за клубні, якія былі адгружаныя Віцебскаму гарадскому плодагароднінагандлю. Як і іншым гаспадаркам Бярэзінскага краю, толькі нямногім удалося прадаць бульбы на традыцыйных восеньскіх кірмашах нават па нізкаму кошту –120 рублёў за кілаграм. Так і не знайшоўшы пакупнікоў на гэту прадукцыю, вымушаны тут 700 тон бульбы ўраджаю цяперашняга года пусціць на корм жывёле. Другую палову ўраджаю "другога хлеба" прыйшлося рэалізаваць зусім па нізкаму кошту – 70 рублёў за кілаграм на адзін з крухмальных заводаў. Другі год запар з аналагічнай праблемай сутыкнуліся і ў КУСХП "Докшыцкі", дзе з адведзеных 39 гектараў сабралі 600 тон морквы, капусты, сталовых буračкоў. На гародніну нізкія закупачныя кошты, і толькі частку вітамінная прадукцыі закупіў кансервавы завод з Шаркоўшчыны.

Пастаўскі раён

# На працу праз алею казак

■ Уладзімір Шык.

**Не толькі ўзвядзеннем другой дадатковай шахі для прыёму і захоўвання трасты на 2 тысячы тон адметны гэты год для калектыву ААТ " Пастаўскі льнозавод".**

Завадчане паспяхова вырасцілі асабісты лёндаўгунец ужо на 500 гектарах арандаваных зямель, прычым палову з нарыхтаваных 1100 тон сыравіны завезлі ў рулонах, маючы толькі 5 прэсаў-падборшчыкаў. Ва ўсіх работнікаў цяпер паняволі паляпшаецца настрой, паколькі адразу за прахадной уздоўж галоўнай дарогі да вытворчых карпусоў з'явілася алея з драўляных скульптур казачных жывёл. Яшчэ больш прыгожа стане тут будучай вясной, калі ўся тэрыторыя прыбіраецца і тоне ў зяляніне і кветках. Да прыходу на прадпрыемства новага дырэктара Пятра Скурко нічога падобнага тут не было, а за некалькі гадоў завод пераўтварыўся не толькі знешне,тут проста прыемна працаваць, калі бачыш прыгажосць і парадак вакол.

Крымінал

# Турэмныя універсітэты

**Нават у час вайны не нацярпелася столькі жаху 80-гадовая жыхарка вёскі Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна, калі да яе ў хату хутка пасля атрымання пенсіі ўварваліся два незнаёмыя хлопцы.**

■ Уладзімір Шык.

Рабаўнікі пад пагрозай гвалту адабралі ў бабулькі ўсе наяўныя грошы, ежу і таксама прыхапілі з сабой ровар. Толькі ў час разбіральніцтва па гэтай справе высветлілася, што 17-гадовыя хлопцы пазнаёміліся толькі напярэдадні сваёй "аперацыі". Затое ў абодвух нясладны лёс: іхнія маці пілі, у дзяцінстве не было чаго падлеткам надзець, яны галадалі і абодва не закончылі школу. Адзін з іх Аляксей Ч. у 14 год зарабіў першую судзімасць. Паўторна быў асуджаны два гады таму. Але вызваліўся па амністыі, але зараз яму з падзельнікам будзе час абдумаць, ці трэба ў маладосці так будаваць сваё жыццё.

# Парады паспяховай рыбалкі

■ Яўген Самсонаў.

**Паважаныя чытачы "Воль- нага Глыбока- га!" Па жаданню многіх чытачоў у нашай газеце адкрываецца новая рубрыка "Парады паспяховай рыбалкі", якая абавязкова будзе карыснай як навічкам, якія робяць першыя крокі ў рыбацкай справе, так і закаранелым рыбаловам-аматарам.**

У гэтай рубрыцы вы знойдзеце адказы на шматлікія пытанні: на якіх вадаёмах неабходна лавіць рыбу ў нашым паўднёва-заходнім рэгіёне; калі і дзе лепей клюе; якую насадку лепш выкарыстоўваць і на якім вадаёме; як здабываць, падрыхтоўваць і захоўваць насадку; як прыгатаваць рыбалавецкія прылады; парады бывалых рыбакоў пра тое, як захоўваць рыбу, стравы, якія можна прыгатаваць і шмат іншай карыснай інфармацыі. Аматарскае рыбалоўства не толькі адпачынак і здабыча рыбы, але і самы надзейны метад паляпшэння здароўя і атрымання зараду адмысловых эмоцый. Пішыце, тэлефануйце – усе вашы допісы знойдуць месца і будуць размешчаны ў нашай газеце. Па звестках на 28 лістапада ўсе дробныя непраточныя да 3-х метраў глыбіні вадаёмы ў нашым краі пакрыты лёдам ад 8 да 12 сантыметраў. На глыбейшых і праточных вадаёмах надлёдным ловам займацца небяспечна. "Кляваў акунь на мармышку і на блясну. Па папярэдняй дамоўленасці аўтар гэтых радкоў разам з іншымі рыбакамі-аматарамі рыбачылі на возеры Мосар. Злавілі шэсць шчупакоў ад 2 кілаграмаў і па некалькі дзесяткаў акунёў. Акуні лепей клявалі на блясну. Паля абеду кляваць перастала.



Мікалай Карандзей

■ С. Раманчук

**Яшчэ 24 выпускнікі школ Глыбоцкага раёна гэтага года, якія не прайшлі па конкурсу і не знайшлі прымяненне сваім сілам, вымушаны былі зарэгістравацца ў якасці беспрацоўных у цэнтры занятасці.**

## Вакансіі для мужчын

З іх палова скарыстала прапанову паехаць на курсы прадаўцоў, цырульнікаў, аператараў ЭВМ. А вось многім прадстаўніцам цудоўнага полу па-ранейшаму складана знайсці сабе працу, хаця сітуацыя на мясцовым рынку працы палепшылася, дзякуючы стварэнню 217 новых працоўных месцаў. Толькі за першыя тры кварталы за дапамогай у працаўладкаванні звярнулася больш за тысячу глыбачан, з якіх 921 стаў на ўлік на біржы працы, а сярод вакансій больш мужчынскіх спецыяльнасцей і пасады, якія нізка аплачваюцца. Хаця беспрацоўе на Глыбоччыне памяншаецца, але адначасова ў 1,5 разы.....

**Докшыцкі раён**

## Буслы на панадворку

■ В. Шайкоў

**Тыя, хто праязджае па трасе Віцебск-Мінск на ўчастку паблізу Бягомльскага лясгаса з нядаўняй пары сталі скідваць хуткасць, а то і зусім спыняцца, калі бачаць незвычайны заапарк вакол дарогі.**

На верхавіне аднаго з дрэў засталося зімаваць сямейства буслоў. У цяні іншых дрэў можна ўбачыць саву, цецерука. А на зямлі мядзведзя, лася і іншых жыхароў лесу. Толькі жывёлы гэтыя і птушкі не жывыя. Яны прыгожа выразаныя рэзчыкам па дрэву Мікалаем Залуцкім. Дарэчы, у Докшыцкім раёне ёсць яшчэ адно падобнае гняздо буслоў пасярод двух дрэў Крыпульскай СШ. Тут намаганнямі двух рэзчыкаў па дрэву, настаўнікаў Івана Парцянкі і Аляксандра Рабіза, з'явіліся драўляныя скульптуры, а тэрыторыя вакол школы пачала нагадваць казачную паляну на чале з сімпатычным Лесавіком.




Аляксандр Астроўскі

# Шаркоўшчынскай раённай газеце "Кліч Радзімы" 60 гадоў

**Першы нумар Шаркоўшчынскай раённай газеты выйшаў 5 снежня 1944 года. Тады яна мела назву "Сялянская праўда".**

■ Кліменцій Кожан,
*в. Германавічы.*

**Я ў той час хадзіў у першы клас, ужо навучыўся чытаць па "Буквары". Добра памятаю, як родны дзядзька, Іван Францавіч Кожан, прынёс на наш хутар першы нумар "Сялянскай праўды" і папрасіў прачытаць яму самы вялікі артыкул, які быў надрукаваны ў газеце.**

"Вось пляменнік, пачытай, а то я нешта слаба бачу". Вядома, дзядзька схітраваў. Ён, напэўна, хацеў праверыць, як я навучыўся чытаць. Хадзіў ужо чацвёрты месяц у школу, але чытаў не вельмі бойка. Літары ў газеце здаваліся зусім маленькімі ў параўнанні з літарамі "Буквара". Калі я закончыў чытанне, дзядзька пахваліў мяне і папрасіў прыходзіць на ягоны хутар у Балбеках чытаць па вечарах яму раённую газету і "Праўду". Амаль кожны дзень, пасля выканання урокаў, я наведваў дзядзькаў хутар, які стаяў на высокім беразе прыгожай і гаманлівай рачулкі Лучайкі. Пакуль дзядзька спраўляўся па гаспадарцы, я слухаў радыёперадачы па маленькаму польскаму дэтэктарнаму прыёмніку, які быў адзіным тады ў нашай вёсцы. Надзяваеш на вушы слухаўкі і чуеш навіны з Мінска і Масквы, канцэрты, спектаклі. Гэты маленькі прыёмнік здаваўся мне сапраўдным цудам. Было дзіўна, як гэта можна чуць гаворку, музыку, спеў за сотні кіламетраў ад сваёй вёскі.

Справіўшыся з работай, дзядзька звычайна ўзбіраўся на печ і прасіў мяне пачытаць. З таго часу і пачалося маё сяброўства з раённай газетай. З цягам часу сам стаў выпісваць яе. Таксама чытаў "Піянерскую праўду", беларуская піянерская газета, а калі ў 1950 годзе стаў камсамольцам, то выпісваў ужо "Сталінскую моладзь".

Працуючы настаўнікам, выпісваў і чытаў 30-35 назваў розных газет і часопісаў. Каштавалі газеты і часопісы ў Савецкім Саюзе ў параўнанні з нашым часам – танна. На першым месцы для мяне заўсёды была самай блізкай раённая газета "Сялянская праўда", пазней "калгасны шлях". На яе старонках знаходзіў шмат цікавых матэрыялаў па праблемах эканомікі, асветы, культуры, часта выкарыстоўваў гэтыя матэрыялы ў сваёй настаўніцкай працы. Пасля выхаду на пенсію стаў працаваць у Германавіцкім музеі культуры і быту навуковым супрацоўнікам. І зноў раённая газета стала маім памочнікам. На працягу амаль 40 гадоў на старонках нашай раёнкі змяшчаліся мае артыкулы на краязнаўчыя тэмы. Найперш мяне цікавілі гісторыя нашага краю, развіццё народнай асветы, культуры. Працягваю супрацоўнічаць з раёнкай і зараз. Хочацца напісаць пра гісторыю асобных вёсак. Пачаў з напісання артыкула пра вёску Шкунцікі. У далейшым думаю расказаць на старонках газеты аб развіцці народнай асветы ў Шаркоўшчынскім раёне, пазнаёміць чытачоў з гісторыяй некаторых школ.

Хочацца бачыць раённую газету больш сучаснай, павялічанага фармату, якая выдавалася не 2, а як і раней, 3 разы на тыдзень, каштавала не 8700 рублёў на квартал, а значна танней. Раённая газета павінна стаць сапраўдным народнай газетай і прыходзіць у кожную сям'ю. Зараз тыраж газеты складае 2145 паасобнікаў. У сувязі з павышэннем падпісной цаны тыраж газеты з кожным годам паніжаецца. У гэты юбілейны дзень хочацца пажадаць моцнага здароўя і творчых поспехаў усім супрацоўнікам газеты "Кліч Радзімы".




## Падзяка

Дарагая рэдакцыя!
Хочам праз Вашу газету выказаць
**удзячнасць кіраўніцтву аўтапарка №16**
за аказаную дапамогу, а менавіта за тое, што выдзеліў аўтобус, каб наша дачка і іншыя дзеці з вёскі Забор'е, маглі нармальна, у любое надвор'е дабірацца ў школу ў в. Гатаўшчына. Яшчэ раз дзякуй Вам і хочацца пажадаць Вам здароўя, дабрабыту ва ўсіх справах і пачынаннях, а таксама шчасця Вам і Вашым сем'ям.

*З удзячнасцю сям'я Садоха.*

**На конкурс:**

**Міс «Вольнае Глыбокае» – 2004-05**




**Таццяна Шалонька,** нарадзілася 12 лістапада 1985 г. Кантралёр-касір АСБ «Беларусбанк», студэнтка Аршанскага механіка-эканамічнага каледжа.
Мара – дасягнуць высокіх вынікаў у прафесійнай дзейнасці. Хобі – захапленне псіхалогіяй.

*Фота Я. Самсонава*

# Падсвілле

## Малы гарадок, але ўдалы

**Нават позняй восенню па-свойму прывабны гарадскі пасёлак Падсвілле, які акружаныляснымі масівамі Галубіцкай пушчы і двума маляўнічымі азёрамі Алаізберг і Белае, якія злучаюцца невялікай рачулкай. Толькі нядаўна ў былога райцэнтра, які адзначыў сваё 80-годдзе, з'явіўся свой герб у выглядзе шчыта з выявай двух срэбраных рыбак на блакітным фоне, а вось паўсядзённае жыццё і далейшыя перспектывы тут лепшыя, чым у іншых невялікіх гарадкоў Віцебшчыны.**

■ **Уладзімір Шык.**

### Там, дзе рос дрымучы лес

Нягледзячы на свой невялікі ўзрост, у другога па значэнню населенага пункта Глыбоцкага раёна ёсць свая гісторыя паходжання, якая вядома не толькі старажылам, але і юным падсвільчанам. Яшчэ стагоддзе таму ў гэтай мясцовасці рос густы лес, а людзі пасяліліся на адным з высокіх берагоў возера Белае і назвалі пасёлак Свілай. Пазней, калі паміж двума вадаёмамі праклалі чыгуначную ветку, на супрацьлеглым баку вырасла імённе абрусеўшага немца Алаізберга, дзе перад Першай сусветнай вайной акрамя сядзібы гаспадара налічвалася толькі 9 двароў.

Роўна 80 год таму, згодна архіўных дадзеных, на месцы цяперашняга Дома культуры і пяціпавярховікаў, пачаў будавацца ваенны гарадок для размяшчэння 7-га батальёна Корпуса аховы памежжа даваеннай Польшчы. Акрамя казармаў тут хутка пабудавалі канюшню, жылыя дамы для сем'яў пагранічнікаў, кацёл, сямігадовую школу і іншыя аб'екты і апроч ваенных тут у 1930 годзе пражывала 59 чалавек мясцовага насельніцтва. Старажылы да гэтай пары ўспамінаюць, які ў той час у Падсвіллі быў цудоўны стадыён з зялёным газонам, якому не быў страшны самы моцны лівень – настолькі дасканалай зрабілі палякі дрэнажную сістэму. Праўда, у савецкі час райкам партыі стадыён знішчыў – адвёў месца пад жылыя забудовы, а сучасны стадыён і ў падноскі не гадзіцца перадваеннаму.

Чацвёрты па ліку мэр пасёлка, які афіцыйна меў назву старшыні пасялковага савета, Барыс Зянькоў, які пражыў тут больш за 30 год, расказаў мне пра яшчэ адзін адметны факт. У перадваенныя гады, аж да 1939 года, хадзілі па Падсвіллі і асабістыя грошы. Дакладней, прыгранічны гарнізон меў свае адчаканеныя манетападобныя жэтоны вартасцю ад 5 да 50 грошай і 1, 2 і 5 польскіх злотых. Па таму часу на іх можна было набыць многае, праўда, законным плацежным сродкам манеты былі на абмежаванай прасторы, паколькі на іх месціўся нумар і назва часці. Але для нумізматаў мець такі рарытэт у сваёй калекцыі прэстыжна.

У час гітлераўскай акупацыі ў гэтым месцы знаходзіўся моцна ўмацаваны фашысцкі гарнізон, які налічваў 250 салдат і афіцэраў. Пры вызваленні пасёлка тут развярнуліся кровапралітныя баі, і часці чырвонай арміі, якія наступалі, сустрэлі суцэльныя руіны – не пацярпела толькі каля 20 дамоў. У самым цэнтры Падсвілля ў парку пра гэта напамінае брацкая магіла з імёнамі загінуўшых 79 воінаў і партызан. Гэты помнік з выявай салдата, які смуткуе, мінулым летам добраўпарадкавалі, апранулі ў граніт, а вось з ранейшых 150 ветэранаў у жывых засталіся толькі 35 франтавікоў, але ў сілу сталага ўзросту толькі 17 могуць самастойна рухацца.

### Як маладыя ўсе былі

Гэта толькі зараз Падсвілле – утульны і дагледжаны гарадок, у якім пражывае каля трох тысяч чалавек, з



**На здымку:** скульптура з дрэва ля завода харчовых прадуктаў. *Фота Ул. Скрабатуна*

якіх амаль трэцяя частка – пенсіянеры. Актыўна забудоўвацца мястэчка пачало ў 1950 годзе, калі стала цэнтрам Пліскага раёна, а пазней, праз 8 год, атрымала статус гарадскога пасёлка. Але адразу пасля вызвалення храм зачынілі, тут былі толькі драўляныя пабудовы і лес, разам з забалочанай тэрыторыяй, куды стараліся не пускаць статак кароў. З пачатку пяцідзесятых гадоў тут пачалі размяшчацца раённыя ўстановы. А калі ўтварылася ПМК будаўнікоў № 48, пачаўся ў Падсвіллі перыяд бурнага адраджэння. У пасёлку правялі цэнтральнае ацяпленне, водаправод, каналізацыю. Патрабавалася шмат рабочых рук і заробкі былі вышэйшыя, чым у калгасах, якія былі створаны прымусова. З таго часу апроч саліднага жылога фонду тут дзейнічала вялікая сярэдняя і музычная школы, раённая бальніца, некалькі дамоў культуры і ГЦК на 400 глядзельных месцаў, дзве бібліятэкі, аптэка, пошта, чыгуначная станцыя, турысцкая база, магазіны, кафэ і іншыя зручнасці цывілізацыі, якіх пазбаўлены жыхары сельскай мясцовасці.

Нават калі Падсвілле перасталі менаваць райцэнтрам, яно працягвала развівацца, дзякуючы наяўнасці чатырох паспяховых да гэтай пары арганізацый, якія ўтвараюць горад. Па сутнасці ў пасёлку амаль няма беспрацоўя, а кожны чацвёрты жыхар працуе на буйным заводзе харчовых прадуктаў, чыя прадукцыя неаднаразова адзначалася на міжнародных конкурсах-дэгустацыях вінаробства. Тут жа працуе вядомая ў вобласці Дзвінская эксперыментальная база лесу, пачаў адраджацца льнозавод, а ўсяго дзейнічае каля паўсотні больш дробных фірмаў і арганізацый. Прычым сучасны гарадок глядзіцца кампактна і будуецца з любоўю. Самую добрую памяць пакінуў пра сябе пайшоўшы з жыцця Пётр Васільевіч Татарынаў, які ў далёкім 1959 годзе ўзначальваў будаўнічую арганізацыю, якая ўзвяла гэты гарадок.

У памяць пра гэтага чалавека, сапраўднага патрыёта свайго краю, як пацвердзіў мэр Падсвілля, адна з вуліц пасёлка стане насіць імя Татарынава. Праўда, у апошні час тут развярнулася толькі прыватнае будаўніцтва і вырасла новая вуліца Палеская з катэджаў з аднайменным завулкам. Прэзідэнцкія домікі актыўна будуюцца паблізу мястэчка, але па перакананню многіх падсвільчан, разумней іх было б будаваць у іх, дзе створана адпаведная інфраструктура для паўнацэннага жыцця і адпачынку.

### Багацце краю – людзі

Асабліва ганарацца ў Падсвіллі, што ў тутэйшых мясцінах, у засценку Пунькі, нарадзіўся таленавіты беларускі мастак, этнограф і даследчык Язэп Драздовіч. Быццам бы сама прырода садзейнічае з'яўленню такіх вядомых асоб, ды і не кожны буйны горад можа пахваліцца, што ў гарадскім пасёлку жывуць адразу два члена Саюза пісьменнікаў Беларусі – паэтэса Марына Баравік і празаік-мастак Людміла Андзілеўка. Пра гэтае прыгожае мястэчка даведаліся і ў Парыжы, і ў Берліне, калі там выстаўляліся работы, на жаль, ужо памерлага, народнага мастака – майстра разьбы па дрэву Мікалая Калакольцава. Праславіў родны край і юны вундэркінд, гонар школы Арцём Кохан, які выйграў на мяжы стагоддзяў у Карэі першае для Беларусі золата на міжнароднай алімпіядзе па матэматыцы. Сярод выпускнікоў Падсвільскай СШ выйшла ў свет шмат дастойных людзей, сярод якіх шэраг дактароў навук, навукоўцаў, медыкаў, ваенных.

Вялікім аўтарытэтам і павагай у землякоў карыстаецца дырэктар завода харчовых прадуктаў Валерый Акуленка, да якога звяртаюцца за дапамогай і саветам не толькі працаўнікі вядучага ў пасёлку прадпрыемства. Як расказала сакратар выканкама Святлана Чарная, гэты кіраўнік нікому не адмовіў у падтрымцы, тычылася гэта канкрэтных жыццёвых праблем ці таго ж садзіка, школы, турыстычнай базы. Завод значна дапамагае мясцовай адміністрацыі, каб пасёлак добраўпарадкоўваўся і прыгажэў.

Зрэшты, і іншыя мае суразмоўцы адзначалі, што жыць у такім маленькім гарадку, як Падсвілле, не сумна, нават наадварот. Вось і ў ліпені свята пасёлка, якое супала з 60-гадавінай вызвалення ад гітлераўскіх захопнікаў, працягвалася з палудня да поўночы і завяршылася іскрамётным феерверкам. Ёсць задума зрабіць традыцыйным такі Дзень гарадскога пасёлка, дзе ўмеюць маштабна і весела адзначаць Калядкі, Масленіцу, Купалле, Дзень маці і іншыя масавыя тэатралізаваныя мерапрыемствы. Далёка за межамі раёна вядомы клуб "Рамантык", штогадовы фестываль бардаўскай песні, а заліваць лёд на адчыненай ляловай каробцы і рыхтаваць моцных баксёраў у Падсвіллі пачалі, апярэдзіўшы ў гэтым раённы цэнтр.

У адрозненне ад іншых населеных пунктаў, пасёлак, які размешчаны ў баку ад асноўных магістраляў, зусім не мядзведжы куток і ён добра асвятляецца ў цёмны час сутак. Тут забяспечылі ўкараненне практычна ўсіх нарматываў мінімальных сацыяльных стандартаў і патрабуецца яшчэ ўсталяваць адзін таксафон, хаця ў будучым тодзе з падключэннем лічбавага абсталяванне на АТС, пацвердзілі ў пасялковым савеце, у Падсвіллі будзе і сотавая сувязь. Ёсць надзея, што ў бліжэйшыя гады пракладуць сюды з Глыбокага, да якога 18 кіламетраў, магістральную ветку газапravода і ў пасёлак прыйдзе прыродны газ.

Паколькі ёсць дзе ўладкавацца на працу, моладзь менш, чым раней, імкнецца з'язджаць адсюль у вялікія гарады. За апошнія няпоўныя чатыры гады ў Падсвіллі згулялі 40 вяселляў, не свет з'явіліся 72 юныя падсвільчаніна. Праўда, і тут колькасць насельніцтва змяншаецца, паколькі за гэты перыяд памерла 154 жыхары, але ў іншых месцах дэмаграфічная сітуацыя яшчэ больш жахлівая.

... Звычайна, будучы ў глыбінцы, хутчэй хочацца вярнуцца дадому ў цёплую кватэру. Але мне, нягледзячы на дрэннае надвор'е, у Падсвіллі многае спадабалася і асабліва людзі – шчырыя, ветлівыя, працавітыя. Так што запрашэнне прыехаць сюды летам і палюбавацца прыгажосцю прыроды прыйдзецца скарыстаць, тым больш, што і тутэйшая турбаза працуе круглы год.

### Кропка на карце



**На здымку:** старадаўні дом на цэнтральнай вуліцы Падсвілля прыстасаваны пад "Салон-магазін". *Фота Ул. Скрабатуна*



**На здымку:** будынак колішняй польскай школы. Жыве тут цяпер толькі адна сям'я. На жаль, гэты цікавы будынак, які пабудаваны ў "закапанскім стылі", равеснік Падсвілля, разбураецца. Некалі Падсвілле будзе шкадаваць аб страце такога будынка, частцы сваёй гісторыі. Перадаць бы яго лепш мясцовай турбазе? *Фота Ул. Скрабатуна*



**На здымку:** у цэнтры Падсвілля. *Фота Ул. Скрабатуна*



Міні-рынак у Падсвіллі

Грамадства і здароўе

# Эпідэмія грыпу Беларусь не абміне

**Эпідэмія грыпу гэтай зімой прыйдзе ў Беларусь раней, чым чакалася. Паводле прагнозаў спецыялістаў-эпідэміёлагаў, вельмі распаўсюджаная форма грыпу "А" чакаецца ў студзені. Але ўскосныя прычыны таго, што грып ужо заспяшаўся, ужо ёсць. Віною таму – вільготнае надвор'е і агульнае пагаршэнне стану імуннай сістэмы грамадзян.**

■ Іна Студзінская, *г. Мінск*

Як выглядае сітуацыя з захворваннямі ў Мінску зараз? За мінулы тыдзень узровень захворвання на адэнавірусную інфекцыю павялічыўся – каля 20 тысяч мінчан звярнуліся да медыкаў, шпіталізавана больш за 320 дзяцей. Зафіксавана 105 выпадкаў захворвання на 10 тысяч насельніцтва Мінска, гэта крыху больш за норму. Але гэта пакуль не грып. Распавядае загадчыца аддзела Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Алена Фісенка.

**(Фісенка:)** "Зараз часцей прэваліруе адэнавірусная інфекцыя, а не грып. Калі казаць пра грып, то сёлета таксама чакаецца цыркуляцыя вірусу грыпа "А", а таксама і "В" – гэты прагноз дае і Сусветная арганізацыя аховы здароўя, і Беларускі нацыянальны цэнтр па грыпу. Экстраардынарнай сітуацыі не чакаецца".





Спецыялісты суцяшаюць, што экстраардынарнай сітуацыі не будзе. Але ж вірус усё адно прыйдзе. Таму беларускія лекары раяць рабіць прышчэпкі: лекар-педыятар Ганна Асмалоўская сказала адназначна, што рабіць прышчэпкі трэба:

**(Асмалоўская:)** "У прынцыпе, варта. Хоць мы не маем магчымасці ўсіх прывіць і прасачыць, наколькі яны менш будуць хварэць. Усе размовы пра тое, што вірус грыпу мутуе, змяняецца, не зусім адпавядаюць. Карацей, сэнс у тым, каб антыгенная формула вірусу, які будзе выклікаць эпідэмію, супала з антыгеннай формулай прышчэпкі. Але сучасныя вакцыны ўсім гэтым якасцям адпавядаюць. І лічыцца, што варта. На адну верагоднасць захварэць меней – зрабілі, што маглі".

Ці магчыма гэта зрабіць бясплатна, у дзяржаўных паліклініках, альбо толькі ў прыватных і за грошы? На амаль двухмільённы Мінск атрымалі толькі 86 тысяч бясплатных дозаў расійскай вакцыны, таму робяць процігрыпавыя прышчэпкі толькі так званай групе рызыкі (тым, у каго хранічныя захворванні). Педыятар Ганна Асмалоўская прывяла такія лічбы: для дзетак трох вялікіх сталічных мікрараёнаў – Сухарава, Чырвонага Бору і Захаду – выдаткавана толькі 300 бясплатных дозаў. Гэта, безумоўна, мізэрная колькасць. У прыватных цэнтрах вакцына ёсць. Расійскія "Грыпол" і "Грыпавак" можна ўвесці за 9 тысяч. Французскія даражэй – "Ваксігрып" і "Флюарэкс" каштуюць ад 17 да 24 тысяч.

Якую вакцыну лепш прышчапляць? Педыятар Ганна Асмалоўская на гэтае пытанне адказала так:

**(Асмалоўская:)** "Зараз больш распаўсюджаная расійская вакцына "Грыпол". У мінулым годзе прышчэплівалі французскай "Флюарэкс". Зараз у прыватных фірмах таксама ёсць "Флюарэкс" і "Ваксігрып". Я не думаю, што яны вельмі моцна адрозніваюцца. Па маім досведзе, дзеткі рэдка рэагуюць на саму прышчэпку, часцей за ўсё ў лёгкай форме хварэюць менавіта дарослыя. Але я не заўважала прамой залежнасці ад таго, якой вакцынай прывілі, асаблівай розніцы няма. Стандарты прышчэпак аднолькавыя, еўрапейскія, скажам так. І ў расійскіх, і ў французскіх вакцын. Я свайму дзіцяці сёлета зрабіла прышчэпку расійскай вакцынай, летась рабіла французскай. Асаблівa прэтэнзій не было".

Дадам, што зрабіць прышчэпку не позна і зараз. Даследаванні, праведзеныя з вакцынамі, паказалі, што іх паспяховасць складае 70-90%. Арганізм здаровага чалавека набывае імунітэт праз два тыдні пасля прышчэпкі. Вакцына дзейнічае на працягу 12 месяцаў, а таксама зніжае верагоднасць таго, што мы захварэем у наступным годзе.

## Пандэмія грыпу можа паразіць да 30% насельніцтва свету

**БАНГКОК.** Пандэмія грыпу ў свеце набывае пагрозлівыя маштабы, — заявіў кіраўнік заходняга аддзялення Сусветнай Арганізацыі здароўя Сігер Омі на сустрэчы міністраў аховы здароўя 13 краінаў Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна. Эпідэмія птушынага грыпу, якая пачалася ў Азіі напачатку гэтага года, дала штуршок развіццю іншых формаў хваробы.

Паводле прагнозаў САЗ, чарговая пандэмія грыпа можа паразіць ад 25 да 30% насельніцтва, у выніку чаго могуць загінуць да 7 млн. чалавек.



## У дзень 74-х угодкаў Уладзіміра Караткевіча лаўрэатаў прэміі ягонага імя стала роўна трынаццаць

■ Браніслава Станкевіч, *г. Віцебск*

Традыцыйна ў дзень угодкаў славутага земляка на Віцебшчыне праходзяць урачыстыя імпрэзы. У Оршы, на малой радзіме пісьменніка, калектыў музея Уладзіміра Караткевіча правёў паэтычныя чытанні каля помніка ў Прыдняпроўскім парку ды вечарыну, на якую былі запрошаныя мясцовыя літаратары.

Паводле слоў дырэктара музея Галіны Юркевіч, да наступных, 75-х угодкаў пісьменніка, у Оршы рыхтуецца новая экспазіцыя.

А ў Віцебскім літаратурным музеі сёння прайшло ўганараванне лаўрэатаў абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча. Яна была заснаваная ў 1999 годзе і сёлета прысуджаная адразу тром паэтам з Віцебшчыны: віцьбчанам Уладзіміру Папковічу ды Вользе Русілцы і глыбачаніну Алесю Жыгунову, якому канакавана было стаць трынаццатым лаўрэатам.

**(Жыгуноў:)** "Не веру я ў гэтыя прыкмы! Ну і няхай трынаццаты. Усё адно сёння для мяне вельмі важны дзень. Бо Караткевіча я адкрыў для сябе з дзяцінства, раман "Нельга забыць" прачытаў разоў, можа, пяць. Не кажу ўжо пра "Каласы пад сярпом тваім" — гэта проста геніяльны твор! І я вельмі рады, што стаў лаўрэатам прэміі імя Уладзіміра Караткевіча!"

Адзінае, што крыху азмрочыла ўзнёсла-паэтычную атмасферу віцебскага святкавання, — ніхто з уладаў не даў распараджэння прыбраць снег з помніка Караткевічу. З гэтым мусіў пагадзіцца і загадчык аддзела культуры аблвыканкама Мікалай Пашынскі:

**(Пашынскі:)** "Так, гэта наш недагляд. Гэта мы прагледзелі, а што ўжо было прасцей — узяць мяцёлку ў рукі ды пачысціць той снег! Не так у нас ужо і шмат такіх землякоў і такіх помнікаў, а вось элементарнай культуры проста бракуе".

Прысутныя доўга абмяркоўвалі, хто мусіў бы напярэдадні пачысціць помнік: абласныя ўлады, камунальныя службы, студэнты з суседняга корпусу універсітэта або сябры ТБМ ці проста неабыякавыя грамадзяне. Невядома кім, але да вечара снег з помніка ўжо быў прыбраны.

# Камп'ютар можа выклікаць цяжкія хваробы вачэй і нават слепату

**Японскія медыкі апублікавалі вынікі буйнога даследавання аб шкодным уплыве камп'ютараў на здароўе вачэй. Аказваецца праца за камп'ютарам асабліва шкодная для блізарукіх – у такіх людзей вельмі высокая рызыка захварэць на глаўкому і страціць зрок. Аб гэтым інфармуе чытачоў брытанская газета Times.**

■ Сяргей Абламейка

Глаўкома – гэта хвароба вачэй, звязаная з высокім ціскам унутры вокавага яблыка. Калі ціск падвышаецца ў маленькіх сасудах, гэта спыняе крываток да зрокавага нерва. Хвароба развіваецца спачатку без бачных прыкметаў і таму асабліва каварная – першыя валокны зрокавага нерва, якія церпяць ад глаўкомы, размешчаны на перыферыі сятчаткі.

Страту перыферыйнага зроку ў пачатковай стадыі хваробы людзі пераважна не заўважаюць. А калі працэс ахоплівае цэнтральную частку сятчаткі, часцей за ўсё нешта рабіць ужо позна – чалавек слепне.

Каманда японскіх медыкаў з Універсітэта Тога ў Токіо паведаміла, што рызыка распаўсюджваецца толькі на блізарукіх людзей і не датычыцца тых, хто мае нармальны зрок.

Паколькі камп'ютары шырока выкарыстоўваюцца ўжо даволі даўно, дык і даследаванняў з мэтай знайсці іх шкодны ўплыў на вочы было таксама шмат. Але ў большасці тых эксперыментаў вялікай шкоды для вачэй знойдзена не было. У горшым выпадку, сцвярджалі аўтары ранейшых даследаванняў, карыстальнікі камп'ютараў могуць зазнаць стамленне вачэй і галаўныя болі, але ніякія доўгатэрміновыя наступствы ідэнтыфікаваныя не былі.

Менавіта таму японскае даследаванне, вынікі якога апублікаваныя ў часопісе Journal of Environmental and Community Health, стала першым буйным вывучэннем адмоўных эфектаў камп'ютара на здароўе людзей. Было вывучана больш за 9 тысяч чалавек – работнікаў электроннай і металургічнай прамысловасці. Адны з іх актыўна працавалі на камп'ютарах, а іншыя – наадварот камп'ютарамі амаль не карысталіся.

Сярод так бы мовіць камп'ютарнай часткі ўдзельнікаў эксперыменту было вылучана 500 чалавек з адхіленнямі зроку. 315 з іх былі больш уважліва даследаваныя афтальмолагамі, і ў дзвюх трацінаў з гэтых 315-ці чалавек былі знойдзеныя першасныя прыкметы глаўкомы.

Удзельнікаў эксперыменту таксама апыталі, колькі часу яны праводзяць за камп'ютарам і як даўно яны на ім працуюць. Улічваючы гады працы на камп'ютары і штодзённы час, праведзены за кап'ютарам, медыкі падзялілі ўсіх карыстальнікаў на тры групы – так званыя лёгкія, сярэднія і цяжкія карыстальнікі. Пасля адсейвання іншых фактараў, кшталту спадчыннай схільнасці да глаўкомы, была зроблена высноа, што сярод блізарукіх "цяжкіх" карыстальнікаў рызыка захварэць на глаўкому большая на 82 працэнты.



Японскія медыкі сцвярджаюць, што блізарукасць адназначна з'яўляецца фактарам рызыкі для глаўкомы. Яны лічаць, што зрокавы нерв у блізарукіх людзей больш схільны да пашкоджанняў, чым у здаровых, а інтэнсіўнае карыстанне камп'ютарам можа быць прычынай такога пашкоджання.

Вялікім сюрпрызам новага даследавання стала высновa яго аўтараў, што для людзей з нармальным зрокам, якія актыўна працуюць на камп'ютары, рызыка глаўкомы, а таксама катаракты і дыябетычнай рэцынапатыі, нават змяншаецца.

Кіраўнік Міжнароднай Асацыяцыі глаўкомы Дэвід Райт, каментуючы вынікі новага даследавання, заявіў, што вельмі важна любога чалавека, які інтэнсіўна працуе на камп'ютары, усебакова правяраць на наяўнасць першасных прыкметаў глаўкомы. Бо якраз на пачатковай стадыі хваробы лячэнне асабліва эфектыўнае.

Што ж трэба рабіць тым, хто мае блізарукасць і адначасова карыстаецца на працы ці дома камп'ютарам?

■ Пры працы на камп'ютары рабіце перапынкі кожныя 20 хвілін.

■ За камп'ютарным маніторам павінна быць дастаткова прасторы, каб туды можна было глядзець і расслабляцца.

■ Экран манітораў павінен быць чысты і прыстасаваны паводле яркасці і кантрасту для вашых вачэй.

■ Святло павінна падаць не спераду ці ззаду, але збоку манітора.

■ Пераканайцеся, што вашыя акуляры цалкам кампенсуюць усе дэфекты зроку.

■ Калі вы карыстаецеся камп'ютарам па працы, дамагайцеся, каб працадаўца забяспечыў вам рэгулярныя медычныя агляды і кантроль афтальмолага.

■ Памятайце, што рэгулярны кантроль лекара жыццёва неабходны для ранняга знаходжання глаўкомы. Толькі візуальны кантроль аптычнага дыска здольны ў 25-ці працэнтах выпадкаў правільна дыягнаставаць глаўкому.

■ Старайцеся прайсці ў лекара не толькі візуальны кантроль аптычнага дыска, але і два складанейшыя абследаванні – так званыя танаметрыю і перыметрыю. Танаметрыя – гэта вымярэнне ціску ў воку, а перыметрыя – гэта кантроль анамалій візуальнага поля.

Толькі асабістыя і рэгулярныя клопат аб сваім здароўі дапамажа вам максімальна пазбегнуць пагаршэння зроку або яго страты.

"Беларуская Атлантыда"

# Балота – д'ябальскае стварэнне
## або дадзенае Богам асяроддзе?

■ Вячаслаў Ракіцкі,
г. Мінск

Удзельнічае: археолаг Ніна Здановіч.



Балота ў Лаўрынаўскім лесе

"Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, ня кожны прызнаў бы за востраў — аб яго ня плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла адна куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы… Багна… адразала востраў ад свету мацней, чым гэта маглі б зрабіць абшары вадзянога прастору. Многія дні людзі жылі, як на плыце, які злая нягода адарвала ад берага і занесла ў мора, — трэба чакаць адно калі спадарожны вецер ці лёс зноў падгоніць да зямлі".

**(Вячаслаў Ракіцкі: )** "Гэта быў фрагмент раману Івана Мележа "Людзі на балоце". Такім чынам, балота ёсць аб'ектыўнай рэальнасцю Беларусі. Балота вельмі часта называюць знакам Беларусі — але ці сапраўды гэта так? Бо дзеля таго, каб стаць знакам, яно найперш павінна стаць складнікам культурнай прасторы краіны".

**(Ніна Здановіч: )** "Хаця паводле падання балота — стварэнне не Боскае, а д'ябальскае (чорт хацеў, як Бог, тварыць свет, але ўдавіўся зямлёю і выбляваў яе, ад чаго і стварылася балота), тутэйшыя жыхары ўспрымаюць яго як дадзенае Богам асяроддзе, хаця рэагуюць на яго па-рознаму".

**(Ракіцкі: )** "Дык чым жа вызначаецца гэтая рэакцыя — узроўнем інтэлекту, сацыяльным становішчам ці гістарычнымі абставінамі?"

**(Здановіч: )** "Можна сказаць, маюць месца ўсе тры аспекты. Здавалася б, як можна чыста практычна выкарыстоўваць балотную твань? Але ў савецкі час менавіта там было месца для сенакосу не толькі на Палессі, дзе скрозь балоты, але і па ўсёй Беларусі, бо больш прыдатныя месцы былі калгаснымі сенажацямі. А ўзімку балотны алешнік станавіўся крыніцай здабычы дармовых дроваў для печаў: гэтая балотная нарыхтоўчая кампанія працягвалася ўсю зіму".

**(Ракіцкі: )** "Найноўшая гісторыя паказвае, што на дзяржаўным узроўні адносіны да балота былі крыху іншыя — і за савецкім часам улады найперш змагаліся з ім".

**(Здановіч: )** "Для калгасаў і саўгасаў балота — гэта патэнцыйныя дадатковыя пасяўныя плошчы, а торф — паліва. Дарэчы, на крыніцу паліва для электрастанцый. Згадайма славутую будоўлю Асінторфу. Шкодзіла толькі залішняя прагматыка ці захапленне нечым — або асушэннем, або торфаздабычай".

**(Ракіцкі: )** "Гэта ўсё прыклады прагматычнага (пазітыўнага ці негатыўнага) стаўлення да балота як аб'ектыўнай рэальнасці. Аднак, мы маем прыклады таго, што менавіта вобраз балота стаў цэнтральным пры стварэнні мастацкіх твораў, тым самым пераўтвараўшыся ў сапраўдны архетып духоўнай культуры беларусаў. І гэта не толькі "Людзі на балоце" Івана Мележа".

**(Здановіч: )** "Так, гэта і коласаўская "Дрыгва", і "Дзікае паляванне караля Стаха" Уладзіміра Караткевіча з вёскай Балотныя Яліны. Гэта і месца драматычных падзеяў у творах Васіля Быкава "Аблава", "Воўчая зграя". Прыклады можна доўжыць. Але пачыналася ўсё гэта, калі хочаце, у "дагістарычны" час, што цудоўна адлюстроўвае наша міфалогія. Ва ўяўленні беларусаў аж тры нячысціки насялялі балоты: Балотнік, Багнік і Аржавенік. У іх існаванні відаць класіфікацыя балотаў на тры групы: праходныя, непраходныя і балотная твань, ці "балотныя вокны". Характар кожнага нячысціка фармаваўся ў адпаведнасці з адпаведнымі прыкметамі гэтага балота (злыя, гультаяватыя ці лагодныя)".

**(Ракіцкі: )** "А знешні выгляд адпавядаў асяроддзю:

*"Хоць нікому з людзей не даводзілася бачыць Балотніка такім, якім ён ёсць напраўду, аднак, вядома, што ён страшэнны таўстун, зусім без вачэй, увесь у тоўстым слоі гразі, да якой наліпла ў беспарадку багавінне, мохавыя валокны, смаўжы, жукі і іншая вадзяная жамяра. Усё гэта разам з няўклюднасцю робіць балотніка найбольш пачварным з усіх нячысцікаў".*

Мне згадваецца яшчэ адна "балотная" істота — Лазавік, ці Лознік — хутчэй гарэзлівае, чым злоснае стварэнне, што атрымала найменне з-за звычкі будаваць хатку ў лазе сярод балота. Будаваць хатку… Вось тут, дарэчы, падказка таму, што балота стала архетыпам не толькі духоўнай, але і матэрыяльнай культуры беларусаў".

**(Здановіч: )** "Насамрэч, адзін з вельмі цікавых відаў традыцыйных рамёстваў — лазапляценне. Ды і лапці беларусы выкарыстоўвалі як абутак для балота, у часе сенакосаў. У Заходняй Беларусі яшчэ перад вайною іх плялі з традыцыйнага для нас матэрыялу — скураных раменьчыкаў, а не з лазы ці лыка. А вось балотных нячысцікаў, паводле паданняў, найболей злавала іншае вынаходніцтва тутэйшых людзей — балотныя лыжы. Уяўляеце сабе: ляжыць сабе нячысцік на дне балота, а ўверсе па самой твані ходзяць людзі і не правальваюцца да яго?!"

**(Ракіцкі: )** "Балоты як прыродны асяродак паўплывалі на гаспадарчую і вытворчую дзейнасць мясцовага насельніцтва. Мы ўжо з вамі аддалі даніну заслугам балотаў у фармаванні духоўнай і матэрыяльнай культуры беларусаў. А ці маюць яны канкрэтныя заслугі перад іхнай гісторыяй?"

**(Здановіч: )** "Не ў апошнюю чаргу дзякуючы палескім балотам Беларусь пазбегла мангольска-татарскага нашэсця ў яго першай, раптоўнай хвалі ў пачатку 13 стагоддзя, калі спякотным летам конныя войскі не змаглі змаху пераадолець пінскія балоты, і тым самым далі магчымасць падрыхтавацца да абароны ад наступных навалаў.

А яшчэ балота — апошняе спадзяванне і надзейная схованка для людзей, якія пераследуюцца законам ці ворагам. Усім вядома, што і праз паўстагоддзя пасля апошняй вайны беларускія балоты працягвалі служыць домам для тых, хто хаваўся ад уладаў. За савецкім часам у прэсе перыядычна з'яўляліся артыкулы пра такіх людзей".

**(Ракіцкі: )** "І беларусы давяралі балоту як сродку абароны?"

**(Здановіч: )** "На мой погляд, па-першае, трэба згадаць пра нашыя замкі-кастэлі. Яны будаваліся не проста ў нізіннай мясцовасці, як традыцыйна па Еўропе, а менавіта сярод балота. Асабліва відаць, наколькі давяралі беларусы балотам як сродку абароны на прыкладзе Крэўскага замку. Там ёсць два ўзвышшы, але замак збудавалі на балоце".

**(Ракіцкі: )** "І спадзяванні спраўджваліся?"

**(Здановіч: )** "Безумоўна. Паводле сведчанняў гісторыкаў, Лідскі замак у 14 стагоддзі быў захоплены толькі аднойчы, і тое лютай зімою, калі балота замерзла. Па-другое, адзін з самых цікавых і архаічных, традыцыйных рэгіёнаў Беларусі Палессе (усходняе і заходняе) сфармаваўся менавіта дзякуючы наяўнасці балотаў, якія адыгралі ролю своеасаблівага ізалятара, што вельмі файна адлюстраваў Іван Мележ у першых старонках раману "Людзі на балоце". Згадайма эпізод, калі камсамолец Міканор склікае на талаку глінішчанцаў, каб пабудаваць праз дрыгву плаціну. Але на гэтую талаку ніхто не прыходзіць. А традыцыйна ж беларусы на талаку ўсе прыходзяць. Гэтая ізаляцыя людзям на балоце, хутчэй за ўсё, падабалася.

Па-трэцяе, паколькі паселішчы, якія існуюць сярод балотаў, заўсёды маюць недахоп у прыдатнай для земляробства зямлі, вытворчая дзейнасць насельнікаў заўсёды базуецца на нечым іншым, стымулюе найчасцей рамесную, прадпрымальніцкую дзейнасць. Хрэстаматыйны прыклад — вёска Гарадная, што ў Столінскім раёне, дзе сфармаваўся ганчарны цэнтр з адметнай традыцыяй. Дзяўчаты не ішлі замуж за таго, хто не ўмеў ляпіць гаршчкоў".

**(Ракіцкі: )** "Звычайна прыродная стыхія ўплывае на фармаванне нацыянальнага характару таго ці іншага народу. А вось, на ваш погляд, ці паўплывала балота як прыродная стыхія з яе характарыстыкамі на псіхалогію беларусаў?"

**(Здановіч: )** "Найперш, балотная глеба — гэта не тупкая зямля. Яна няпэўная: станавіся ды азірайся. На мой погляд, абачлівасць назіраецца і ў характары беларусаў. Яны не спяшаюцца давярацца іншым ці спадзявацца на авось. Беларусы азіраюцца і абдумваюць кожны свой крок: а раптам там дрыгва? Дарэчы, і тое, што Беларусь стала краінай-партызанкай, гэта ідзе ў пэўнай ступені ад характару беларуса: схаваліся, выйшлі, зрабілі што трэба — і зноў схаваліся".

**(Ракіцкі: )** "Балота дазваляла беларусам выжыць?"

**(Здановіч: )** "Безумоўна".

**(Ракіцкі: )** "Але, спадарыня Ніна, мы вельмі часта ўспрымаем слова "балота", асабліва калі яно выкарыстоўваецца ў філасофскім ці пераносным сэнсе, са знакам мінус, як слова абразлівае. Прыкладам, калі ўжываецца яно як метафара псіхалогіі нацыі ці вобразу краіны…"

**(Здановіч: )** "Я прапанавала б усім паразважаць над думкаю пра балота, выказанаю Пятром Васючэнкам у адным з эсэ: з аднаго боку, на балоце нельга пабудаваць нічога трывалага, надзейнага, але з іншага — балота практычна немагчыма знішчыць. Засыпанае ў адным месцы, яно абавязкова ўзнікне як бы зніадкуль у іншым. І калі яно такім чынам характарызуе беларусаў і адлюстроўвае іхны лёс, то ў нас ёсць прычыны быць аптымістамі, а не пакрыўджанымі ці зняважанымі такой метафарай".

# Ад 1 снежня плата за абслугоўванне кватэр
## падвышаецца больш як на 22%

■ Галіна Абакунчык

**Пастановай ураду краіны з 1 снежня на 22,4% падвышаецца памер кватэрнай платы ў частцы тэхнічнага абслугоўвання жылых дамоў. Кошт абслугоўвання аднаго квадратнага метра агульнай плошчы павялічваецца на 29 рублёў і складзе 154 беларускія рублі. Камунальныя плацяжы за двух-трохпакаёвую кватэру ўзрастуць да 100 тысяч беларускіх рублёў.**

У Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі асабліва падкрэсліваюць, што падвышаецца толькі кошт тэхнічнага абслугоўвання кватэр і ў межах, якія ўсталяваў Аляксандар Лукашэнка. Гаворыць кіраўнік управы эканомікі Уладзімір Кісялёў:

**(Кісялёў: )** "Падвышаецца кошт толькі аднаго віду паслуг — тэхнічнага абслугоўвання: прыборка пад'ездаў, асвятленне месцаў агульнага карыстання і гэтак далей. Прэзідэнт абмежаваў падвышэнне коштаў на камунальныя паслугі 4–5 доларамі. Сёлета мы да 5 долараў не дабіралі, а таму стаўку за тэхабслугоўванне і павялічылі з 1 снежня".

Паводле спадара Кісялёва, гэткімі ж тэмпамі рост кошту камунальных паслуг прадоўжыцца і ў наступным годзе. Аднак незалежныя эканамісты заяўляюць, што ўлады будуць намагацца найхутчэй кампенсаваць выдаткі, звязаныя з падвышэннем заробкаў і пенсій. Гаворыць эканаміст Яраслаў Раманчук:

**(Раманчук: )** "Насамрэч, калі сёння яны не падвысілі кошты на цяпло ці электраэнергію, дык гэта не значыць, што не зробяць гэта, да прыкладу, у студзені. Але чалавеку, які ідзе плаціць за сваю кватэру, яму ўсё роўна, пад якім соўсам забіраюць ягоныя грошы: у якасці аплаты за энерганосбіты ці тэхнічнае абслугоўванне. Гэткім чынам, рост заробкаў, пенсій напачатку лістапада, ён будзе ўвесь накіраваны на кампенсацыю падвышэння коштаў дзяржавай".

Паводле спадара Раманчука, акрамя таго, улады пастараюцца найхутчэй дасягнуць сваіх жа планаў забяспечыць кампенсацыю камунальных паслуг з боку насельніцтва на 100%. У адпаведнасці з бюджэтам на 2004 год, цяпер гэтая доля складае 60%.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, сёлета тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі павялічыліся ў сярэднім на 10 800 рублёў на кожную кватэру. Прадукты харчавання за дзевяць месяцаў падаражалі на 9,5%. Двойчы даражаў праезд на гарадскім транспарце, прыгарадных і міжгародніх аўтобусах, а таксама на чыгунцы.

